Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 13 траўня 1932 г. № 14 (39)

## НА ЎСЕНАРОДНЫ СУД.

Гэту стацьцю мы пасьвячаем чалавеку, які адыгрывае ў беларускім жыцьці запраўды-ж фатальную ролю.

Розныя Алякюкі, Ладновы, Валейшы, Павлюкевічы, Акіньчыцы—гэта проста дзеці, раўнуючы да кс. Адама Станкевіча, аб якім будзем гаварыць. Тыя дык данасілі на адзінак, правакавалі адзінак ці пэўныя партыйныя групы. Кс. Станкевіч ня толькі робіць тое-ж, ня толькі ўносіць у беларускае грамадзянства маральны бруд і расклад: ён правуе беларускі рух у цэлым, і правакацыя яго закроена вельмі шырока.

Вось чаму прыходзіцца нам брацца за дужа прыкрую задачу—сарваць маску з гэтага шкодніка. І хоць ведаем, што ў адказ на гэту стацьцю — замест апраўданьняў кс. Станкевіча — яшчэ больш бруду і ілжы прачытаем на страніцах органу кс. Станкевіча — „Беларускае Крыніцы", — аднак свой абавязак перад грамадзянствам выпаўняем.

### Нашае становішча.

Кажам ясна і адкрыта: беларусы пад Польшчай маюць аж залішне многа балячак, з якімі змагаецца ўсё чэснае беларускае грамадзянства. Змагаецца, ведама-ж, не дзеля пустое дэманстрацыі, а затым, каб запраўды здабыць свабоду для беларускае культурна-прасьветнае працы і атрымаць належную ад дзяржавы (з нашых-жа грошы!) фінансавую дапамогу на гэту працу, каб усьведамляць шырокія беларускія масы і заваёўваць для іх лепшыя варункі жыцьця, зьдзейсьняючы векавечную цягу беларускага селяніна да „сваей зямлі". Па гэтым шляху ідзе і наша група культурных працаўнікоў, якая ў Грамадзе складала яе нацыянальнае ядро, а цяпер абыймае большую частку існуючых у Заходняй Беларусі культурна-асьветных і гаспадарчых арганізацыяў і ўстаноў, аб'яднаных у Цэнтрасаюзе. На кожную крыўду, учыненую беларусам, на кожны гвалт над нашым народам, незалежна ад таго, скуль ён паходзіць, мы заўсёды падыймалі і падыймаем рашучы голас пратэсту, — голас тым больш важкі, што выяўляе думкі вялізарнае большасьці арганізованага беларускага грамадзянства, запраўды творачага беларускі рух, што сярод нас ёсьць імёны старых, заслужаных і ведамых шырока і ў краі, і заграніцай беларускіх дзеячоў, тварцоў беларускага адраджэньня і наагул беларускае незалежніцкае ідэолёгіі. І з гэтае прычыны з нашым голасам прымушана лічыцца як польская дзяржаўная ўлада тут, так і савецкая—за гранічнай мяжой.

### Барацьба з нашымі ўплывамі.

Уся дзеяльнасьць, усе высілкі кс. Станкевіча скіраваны якраз на тое, каб польская ўлада магла з нашым голасам не лічыцца. Гэтага кс. Станкевіч стараецца дабіцца гэткім спосабам. Як толькі станецца нейкі сумны для беларусаў факт, кс. Станкевіч — з поўнай сьвядомасьцяй таго, што робіць, — пачынае ў сваей „Беларускай Крыніцы" бязглузда лгаць, што быццам нашая група, найпаважнейшая ў Зах. Беларусі, ня толькі дала згоду на ўчыненьне крыўды нашаму народу (—як быццам запраўды нас нехта аб яе мог пытацца!), але й наагул пахваляе палітыку польскіх нацыяналістаў, маючую на мэце зьнішчэньне беларусаў у межах Польшчы. І нічога не памагае агульна ведамы факт, што толькі нашая група дагэтуль вяла і бараніла беларускія сярэднія школы і культурныя ўстановы, не памагаюць публічныя нашы выступленьні і пратэсты проці ўсіх крыўд, не памагае друкаваньне ў газэтах нашых мэморыялаў, падаваных уладам: ілжа паўтараецца няўпынна, упорліва, з яўным жаданьнем за ўсялякую цану дапяць наперад пастаўленае мэты. А мэта гэтая — падвойная правакацыя.

### Падвойная правакацыя.

З аднаго боку сваей ілжой кс. Станкевіч стараецца выклікаць уражаньне, што мы пратэстуем проці робленых нам крыўд няшчыра — для вока, а цішком згодны на ўсё. І гэта толькі падбівае польскіх нацыяналістаў да ўсё больш і больш рашучых выступленьняў проці беларусаў, проці беларускіх школ, проці беларускіх культурных устаноў: кс. Станкевіч папераджае нашых ворагаў, што ўсё гэта яны могуць рабіць зусім бяскарна, не баючыся навет пратэстаў! Едзе найбліжэйшы саюзьнік кс. Станкевіча, пасол Ярэміч, на конгрэсы нацыянальных меншасьцяў у Жэнэву і жаліцца перад усім сьветам на дазнаваныя беларусамі крыўды, дык ізноў кс. Станкевіч, як быццам па асабліваму заказу, і тут дае нашым ворагам найлепшыя аргумэнты дзеля запярэчаньня. Бо як-жа: то-ж—паводле заяваў кс. Станкевіча ў ягонай „Крыніцы" — чуць ня усё актыўнае на культурным груньце белар. грамадзянства ў Польшчы з Луцкевічам на чале (які ведамы заграніцай, як б. галава ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі і прадстаўнік Беларусі на Вэрсальскай Канфэрэнцыі) узыйшло на шлях так блізкіх пэрсанальна кс. Станкевічу Валэйшаў ды Акіньчыцаў і зусім пахваляе паход польскага шовінізму проці беларусаў! Значыць, усе пратэсты пасла Ярэміча — гэта толькі пустыя, беспадстаўныя і тэндэнцыйныя гутаркі, а запраўды беларусам у Польшчы мусіць вельмі добра жывецца, калі сярод іх гэтак разьвіваецца падобнага тыпу „полёнофільства"... І гэта ізноў паддае духу польскім нацыяналістам у іх непрымірымай барацьбе з беларусамі, а адначасна пазбаўляе наш народ і ўсякае маральнае абароны і матэрыяльнага падтрыманьня тых замежных чыньнікаў, да якіх хіба-ж са згодай кс. Станкевіча зварачаецца публічна п. Ярэміч...

### З поўнай сьвядомасьцяй!

Вось у чым агіда правакацыі кс. Станкевіча, вядзенай ужо даўно консэквэнтна і сыстэматычна. І ён ня можа ў сваё апраўданьне сказаць навет таго, што паступаў і паступае праз несьвядомасьць: бо-ж і мы неаднакротна высьнялі ўсю шкоднасьць ягонае дзеяльнасьці ў гэтым кірунку для беларускае справы, дый навет прыхільная для беларусаў украінская прэса („Діло") зусім бесстаронная, зварачала на гэта ўвагу, хаця гэтую самую прэсу кс. Станкевіч раней — падчас апошніх выбараў у Сойм—здалёў быў абалгаць, інформуючы яе аб нібы-то варожых адносінах нашае групы да ўкраінцаў...

Падамо некалькі канкрэтных і агульна ведамых фактаў, дзе правакацыя кс. Станкевіча дасягла сваё мэты. Абмяжуемся толькі апошнімі гадамі і выключна культурна-нацыянальнымі справамі, не парушаючы выпадкаў правакаваньня палітычных арганізацыяў і дзеячоў (называньне Грамады — „камунізуючымі", данос на грам. Луцкевіча аб нябылых зносінах яго з бальшавіцкім камісарам Мясьніковым, на падставе якога грам. Луцкевіч быў арыштаваны і аддадзены пад суд разам з грамадой, і інш.).

### Справа Клецка.

Перад усім — справа зачыненьня Беларускае Гімназіі ў Клецку. — Даведаўшыся, што польская ўлада маніцца зачыніць гэту гімназію, Цэнтрасаюз учыніў цэлы рад выступленьняў, рашуча пратэстуючы проці нічым не апраўданага замаху на гэту нашу культурную пляцоўку. У прэсе нашае групы быў надрукаваны цэлы рад стацей у абароне Клецка. Быў праведзены такжа рад канфэрэнцыяў з польскімі грамадзкімі дзеячамі, якіх прадстаўнікі Цэнтрасаюзу прасілі дапамагчы ў ратаваньні гімназіі. Урэшце, у часе бытнасьці ў Вільні пана Прэзыдэнта Рэспублікі была з'арганізавана грамадзкая дэлегацыя да яго ў справе клецкае гімназіі, а на чале дэлегацыі стаяў старшыня Цэнтрасаюзу — грам. Трэпка. І вось, ня гледзячы на ўсё гэтае, кс. Станкевіч меў нагласьць і тады і цяпер пісаць у сваей „Крыніцы", быццам наша група дала сваю згоду на зачыненьне ўладамі клецкае гімназіі. І гімназія была зачынена...

### Справа Наваградку.

А вось другая справа: справа Беларускае Гімназіі ў Наваградку. З польскіх нацыяналістычных колаў разыйшліся чуткі, быццам урад маніцца зачыніць і гэтую гімназію. Хаця наваградзкая гімназія, дзякуючы ў значнай меры інтрыгам таго-ж кс. Станкевіча, выйшла з нашае культурнае Цэнтралі, — усё-ж Цэнтрасаюз, як клапаціўся аб яе раней, так ня кінуў клапаціцца і цяпер і зрабіў перад адпаведнымі чыньнікамі крокі, скіраваныя ня толькі да фармальнага захаваньня гімназіі, але і да забясьпечаньня ей належнае фінансавае дапамогі з дзяржаўнага скарбу.—Але вось кс. Станкевіч, які праўдападобна ўжо даведаўся аб гэтых кроках Цэнтрасаюзу, ізноў нягодна лжэць у „Бел. Крыніцы", што нібы то іменна Цэнтрасаюз імкнецца да зачыненьня наваградзкае гімназіі, каб „пакараць" яе за адлучэньне ад Цэнтралі. Не польскі шовінізм нішчыць нашыя школы, — кажа гэтым кс. Станкевіч, — а самі беларусы! Дык польскі бок — зусім у парадку... Вось гэта — новая правакацыя з боку фактычнага кіраўніка „Бел. Крыніцы": такім спосабам ён наперад апраўдывае і асьмелівае да дзеяньня тыя польскія нацыяналістычныя чыньнікі, якія ўсьцяж імкнуліся і імкнуцца да руйнаваньня нашых культурных устаноў. Ці і гэтым разам правакацыя не дасягне сваей мэты — так, як было з Клецкам, трудна згадаць...

### Правакацыя ў касьцеле і царкве.

Але ня толькі перад дзяржаўнымі ўладамі правакуе беларускую справу гэты зласьлівы шкоднік. Ен задаўся мэтай — ізноў шляхам правакацыі — забіць усялякую акцыю ў кірунку здабыцьця для беларусаў і для беларускае мовы належных ім правоў у каталіцкім касьцеле і праваслаўнай царкве. Зьліквідаваўшы моцную некалі і ўплывовую арганізацыю беларускіх ксяндзоў, частка якіх пасьля гэтага зусім адцуралася ад беларускае працы, — кс. Станкевіч з яўна правакацыйнай мэтай утварыў новую арганізацыю з безадказных і безгалосых адзінак — пад фірмай Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі, у каторую ўцягнуў і жменю праваслаўных. І гэтая правакацыя ізноў удалася: з таго часу беларуская акцыя ў касьцеле спынілася, бо ў нас няма такое каталіцкае арганізацыі, якая магла-бы гэтую акцыю весьці, а мяшаная каталіцка-праваслаўная (хадэцкая) тут зусім бязсільная: каталіцкія духоўныя ўлады ня толькі з ёй ня лічацца, але й гутарыць з ёй адмаў-

Справа гэта зьвязана з пагрозай савецка-японскай вайны, і Амэрыка прызнаньнем СССР маніцца ўзмацніць СССР у барацьбе з заклятымі ворагамі Амэрыкі—японцамі.

### Пагроза курсу даляра.

Як гэта ні дзіўна, але дзяржаўныя фінансы навет найбагацейшай у сьвеце дзяржавы, Паўночнай Амэрыкі, пагражаюць крахам. Амэрыканскі сойм прыняў пастанову ў справе пакрыцьця бюджэтнага недабору — шляхам інфляцыі, ці выпускам новых даляравых банкнотаў з зьменшаным залатым пакрыцьцем. Проці гэтай пастановы сойму пачалася ў Амэрыцы страшэнная барацьба в боку гаспадарчых сфэраў. Барацьбу распачаў сэнат з самым прэзыдэнтам на чале, якія маюць рашаючы голас ува ўсіх — навет заканадаўчых — справах. Прэзыдэнт выпусьціў спэцыяльны маніфэст, у якім, каб супакоіць і край, і заграніцу, заяўляе, что ніякай інфляцыі ён не дапусьціць, але прыме ўсе меры, каб бюджэт быў збалянсаваны нармальнымі спосабамі: эканоміяй ды павялічэньнем падаткаў (на цэлы мільярд даляраў!), — дык за курс даляра няма чаго непакоіцца.

# ХРОНІКА.

— **Справаздача з падарожы гр. Луцкевіча ў Латвію.** Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын уладзіла ў мінулую нядзелю „гарбатку" для запрошаных гасьцей, на якой грам. А. Луцкевіч дзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаньнямі з падарожы ў Латвію. З вялікім зацікаўленьнем быў праслуханы абшырны даклад, пасьля якога грам. Астроўскі, дзякуючы дакладчыку, запрапанаваў паслаць латвійскім беларусам прывітаньне і словы пашаны да іх культурнай працы, а такжа прасіць іх наладзіць экскурсію ў Зах. Беларусь дзеля азнаямленьня і больш цеснага збліжэньня з нашым грамадзянствам. Прысутныя — ў ліку каля 40 асоб — аднагалосна, з гарачымі воплескамі, прынялі гэту прапазыцыю.

— **Беларуская друкарня імя „Скарыны" і беларускі часопіс „Нёман".** Лічым патрэбным паведаміць беларускае грамадзянства аб тым, як адносіцца „свая", беларуская друкарня, дый яшчэ „імя Фр. Скарыны", да справы беларускага часопісу, у даным выпадку — „Нёмна".

Выданьне чарговага № 3 „Нёмна" наладжана было якраз ка дню праваслаўнай Пасхі. Але кіраўнік беларускае друкарні імя Фр. Скарыны, гр. Найдзюк, маючы, відаць, адпаведны загад ад сваіх гаспадароў, уласьнікаў друкарні, кс. Станкевіча і пасла Ярэміча, ня выдаў адбітага ў гэтай друкарні нумару „Нёмна", трэбуючы адразу поўнага разрухунку. Справа йшла аб нейкіх 60 залатовак — за друк, бо-ж усю тэхнічную працу па выпуску нумару ўзяў на сябе наборшчык Багаткевіч. Гр. Будзькі, які фінансуе выдавецтва „Нёмна", тым часам у месьце ня было, а выдавецкая камісія ня здолела так хутка сабраць патрэбныя грошы, дык зусім ужо гатовы нумар астаўся ляжаць „заставам" (за 60 залатовак!..) у друкарні, дый, здаецца, ляжыць там дагэтуль.

Трэба дадаць, што выдавецкай камісіі даверяе значна большыя сумы навет скромны зэцэр, сумленны і ахвярны працаўнік „Нёмна", гр. Багаткевіч, хоць, як работнік, жыве толькі з працы сваіх рук. Ведаюць усе беларусы і тое, што ўласьнік жыдоўскай друкарні, гр. Левін, таксама заўсёды дае крэдыт выдаўцом розных беларускіх кніжак і часопісаў. А вось уласьнікі беларускае друкарні, кс. Станкевіч і пасол Ярэміч, якія даўно ўжо, як чутно, маюць з сваей друкарні значныя зыскі, ня толькі „ня могуць" пачакаць пару дзён на зусім забясьпечаныя грошы, але ня спыняюцца перад тым, каб затрымаць выхад часопісу, у якім, як ведама, усе нашы пісьменьнікі працуюць ахвярна — без усялякіх ганарараў, наборшчык-жа, гр. Багаткевіч — за палавінную плату!

Ганьба вам, паны Станкевічы ды Ярэмічы, спэкулянты на сьветлым імені Скарыны!

# Пісьмо у рэдакцыю.

**Павэжаны Грамадзянін Рэдактар!**

В останньому числі „Светача Беларусі" уділено декілька рядків і моєй скромній особі.

В звязку з цим доцільным буде вказати якими „церковними" засобами поборюють діячи з „Св. Бел." невгодних собі осіб.

В' 1926-му році, після просьби о. Ковша й прихожан, я згодився приняти на себе диригенство хору Сніпішскої Церкви.

Швидко я переконався, що в'церковній господарці ту царює цілковіта анархія; що о. Ковш за довгій час не спромігся навіть урядити спису церковнаго майна, завдяки чому хутко почали поступати заяви прихожан про пропажу цінних річей приналежних Церкві.

Після арешту о. Ковша анархія ця дійшла до того, що щезла назавжди навіть офіційна приходо-росходова книга.

Повидомленний про це Архіепископ Өеодосій роспорядився тоді спорядити спис церковного маєтку, якій перевірити доручено було завідуючому цриходом Прот. Беляєвові. Цьому останнвому при перевірці вказав я на то, що спис було споряджено нестисло, сумбурно й так, що лишалася цілковіта можливість в'омайбутньому пазбавити церков чимало цінних річей. Для прикладу: — нот і церковних книжок було занесено до спису заледві одну третину та й ще без реєстру, так що люби дві третини були поза контролем.

При таких обставинах я не вважав для себе можливим лишатися далі в Снiпішській Церкві, покинув її та залишені у мене на помешканні книжки, якими користувалися на співанках хору у мене вдома, я передав не хазяїнувавшим в'церкві невідповідальним особам, а лише прот. Беляєвові згідно деталічного реєстру під росписку.

Тоді Ф. Ришкевич, т. зв. „церковний староста", призначений персонально й наперекір приходу о. Ковшом його прибічник. незадоволенний з того, що я виявив пануюче в Церкві безладдя, доніс на мене в поліцію, начебто я вказані книжки собі присвоїв.

Поліція, перепровадивши доходження и переконавшися, що книжки дійсно передані мною прот. Беляєвові, та дотогож в'кількости двукрати більшої від тої, що Ришкевич пошукував через поліцію у мене, справу негайно зліквідувала, та повідомила про це істців (№ 20123/27).

Незадоволівшися доносом в поліцію, та видко передбачаючи нехибну на цьому полі для себе поражку, Ришкевич з двома приятелями подали свої оскарження проти мене до газети „Виленское Утро" (1927 г. № 1972), редакція якої вмістивши їх листа, незабаром сама спростувала його (№№ 1975 і 1981), назвавши діяльність ціх „добродіїв" — „скандалом".

З вищенаведенного ясно, що ані „обыска" ані відбірання у мене поліцією церковних книжок, як рівнож „удаленія" мене з посади в Снiпішскій Церкві бути не могло. Тай сам „староста" Ришкевич подав в'протоколі що „Stryżak odmówił się od pełnienia obowiązków kierownika chóru.

Усе це здается загально відомо, та запевне ще більш відомо керовникам „Светача Беларусі".

Немаючи однак чім „крыть" невгодну їм особу, вони уперто повторюють стару брехню, виявляючи тим цілковитий заник сумління та якоїбудь порядности.

Приймит, Пане Редактор, запевнення моєі високої пошани.

**Василь Стрижак.**
Диригент хору Св.-Миколаївської Церкви у Вільні.

Вільно, Дня 12 квітня 1932 р.

# Корэспондэнцыі.

## Хто вінават?

(Гміна Крывічы, Вялейскага пав.).

У нашай гміне неспадзявана, як гром з пагоднага неба, звалілася кара на бязміласэрнага валадара—сэквэстратара, катораму бедныя сяляне думалі ня будзе канца. Аднаго марознага дня, калі страшэнная вея бушавала мо' на цэлым сьвеце, заганяючы сьнегам шляхі, вёскі і вуліцы мястэчак, калі добры гаспадар ня гнаў з хаты свайго сабакі,—дык у такі дзень срога пазвалі ў гміну сэквэстратара. не зважаючы, як калісьці, на яго далікатную пэрсону. Войт дрыжачым ад жалю голасам, чуць ня плачучы, прачытаў яму такое „ласкавае слова" ад нейкага вышэйшага начальства, што аж бедны сэквэстратар задрыжэў, усёроўна, як-бы ўбачыўшы перад сабой вялізарную пропасьць, у каторую ледзь хвіля мусіць рынуцца. Наймацней у ягоным сэрцы засели некулькі слоў: — „пана... абавязкова звольніць".

Аказалася, што за сэквэстратарам было шмат грахоў. Гэтак сэквэстратар, па нейкай — уласнай ці іншай — абмылцы, не запісаў у падаткавыя кнігі належнай сумы падатку, спагнанае ўжо ім з сялян. Ды бач! Тыя падаткі сьцягіваліся з сялян сэквэстратарам больш, як год таму назад, а гміна аж да гэтага часу абсалютна нічога ня ведала, які лёс спаткаў гэныя „залегласьці. А сэквэстратар, заўсёды сьцягіваючы падаткі, тодькі па надта вялікай прозьбе даваў сяміднеўны тэрмін платніку, а не — дык зараз-жа забіраў, навет без міліцыянта, апісаныя рэчы, ці жывёлу. Дый яшчэ цікава, што было-б далей, каб гэты самы апякун гмінных падаткаў прабыў яшчэ гадкоў пяток? Бо-ж, як сам прызнаўся пад сэкрэтам, ён „укамбінаваў" на ўласную патрэбу спарней, як тысячу злотых,— але ці ўсю праўду сказаў, — невядома. Калі выкрылася гэта неспадзяванка, дык забрала яго паліцыя пад сваю апеку на пастарунак.

А цяпер, калі сялянін, развеўшыся на мякіне, чуць цягае ногі. трэ' пароцца па ўсіх манатках—шукаць паквітаваньняў, бо дзеці чорт ведае дзе іх пазакручавалі, ды яшчэ ці знойдзеш? А знайшоўшы, цягніся за якіх 13—14 кілямэтраў у гміну на спраўджэньне. Галоднаму прайсьці такую адлегласьць немагчыма — ня вытрываеш. Трэ' запрэгчы каня. А конь, дык конь, каб Бог сьцярог: здаецца, каб ня скура, усе косьці рассыпаліся-б; але селянін на гэтае не зважае — едзе... бо на тое прыказ.

Едзе з сумнымі мысьлямі ў грудзёх: ці ягонае паквітаваньне, каторае выдаў сэквэстратар, часам не фальшывае? — вось тады будзе бяда: заплаці другі раз. А скуль увяць грошы?.. І пагружаецца ў думкі:

— Хто вінават?... Ці гмінныя ўлады, ці сэквэстратар?..

**Мяйсцовы.**

# Паштовая скрынка.

**Ад І-ае асноўнае беларускае школы ў Рызе** атрымана ў лік падпіскі 10 латаў. Ад Івана Спрогіса 1 зл. 30 гр., К. Тобля 2 зл., Розаля Еўтуха 2 зл.

**Нашых карэспандэнтаў** перапрашаем за тое, што іх карэспандэнцыі гэтак у нас залежываюцца. Прычына — малы разьмер газэты. У далейшых нумарох пастараемся справу папravіць.

**П. Бандарэвічу.** Думаем, што „Жаноцкая Справа" ня выходзе дзеля таго, што, пасьля выпуску 4 нумароў, не хапіла грошы на далейшую працу. Аднак, ня гублаем надзеі, што яна будзе далей выхадзіць, бо патрэба ў такой часопісі надта вялікая.



**Бацькі!**
**Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!**

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22